### Яшчэ аб справе Бэсарабіі.

Радавая прэса асуджае правакацыйнае павядзеньне Румыніі ў бэсарабскай справе, але вінаваціць больш Францыю, паводле інструкцыяў якой, Румынія сарвала перагаворы ў Вене. Гэткім чынам для С.С.Р.Р. істнуе галоўная справа француска-савецкіх адносінаў, у якіх румынскія—толькі драбяза... Прэса кажа, што С.С.Р.Р. патрапіць вычакаць адпаведны гістарычны мамэнт, каб змусіць да перагляду бэсарабскай справы...

### Італьянскія масоны—за фашыстаў.

Аб'яднаная італьянская „масонэрыя“ выдала выбарную адозву, у якой заклікае сваіх сяброў галасаваць за фашыстаў, паўтараючы словы Мусоліні, што „фашызм ёсьць рэлігія бацькаўшчыны“... Можа пасьля гэтага польскія эндэкі зьмяняць сваю апінію аб „масонэрыі“, якую наагул лічаць крыніцай усіх бедаў — польскіх і сусьветных...

### У Кракаве знойдзена фабрыка бомбаў эндэцкай баёўкі.

У Кракаве „прыпадкова“ знойдзена паліцыяй лябараторыя бомбаў, якая аказалася ўласнасьцяй вядомага эндэцкага дзеяча, адваката Абламовіча.

Абламовіч быў ужо раз арыштаваны паліцыяй пасьля бомбавых замахаў на рэктара ўнівэрсытэту Натансона і на рэдакцыю паступовай кракаўскай газэты, але быў па загаду ўлады (Хьена-Пяста) выпушчаны на волю. Гэты самы Абламовіч у часе кракаўскіх крывавых разрухаў, 6-га лістапада прапанаваў генаралу Чыкелю „высадзіць у паветра работніцкі дом“... Але і тады ён ня быў арыштаваны. Толькі цяпер ужо папаўся... Справа выклікае агульную сэнсацыю...

### 8-мі гадзінны дзень працы ў Англіі.

Міністар працы Шоу заявіў у парлямэнце, што ўносіць праект закона аб 8-мі гадзінным дню працы ў Англіі.

### Выбарная кампанія ў Італіі.

Фашысты разьвярнулі шырока сваю выбарную кампанію, бо перадусім амаль што ня маюць супрацаўнікаў... Б'юць і словам і чынам перадусім попляраў і камуністаў з сацыялістамі—галоўных праціўнікаў, хаця стэрорызаваных... Сацыялісты разьбіліся на тры абозы і тым аслабілі сябе яшчэ больш. Рэспубліканцы трымаюцца бадзёрна, але мелі нават у апошнім Сойме толькі 6 месцаў. Наагул амаль ня ўся опозіцыя, перадусім рознага роду лібэралы, баючыся фашыстаўскай палемікі, робяць найчасьцей закрытыя мітынгі і банкеты, дзе выглашаюць гарачыя выбарныя прамовы, якія пасьля друкуюцца ў іх газэтах... Вось—якая свабода пануе ў фашыстаўскай Італіі... А датаго яшчэ—выбарнае пытаньне зьмяшчаецца толькі ў тым, як будуць падзелены тыя колькі дзесяткаў мандатаў, якія выбарны закон Мусоліні пакідае „меншасьці“, пасьля адлічэньня і забраніраваньня „львінай долі“ (больш двух трэціх) — урадовай партыі—фашыстам...

## З газэт.

### Каля скарбовых справаў.

У сувязі з нашай перадавіцай у № 17 пад загалоўкам „У зачарованым коле“ цікава адзначыць весткі польскіх газэт, якія падцьвярджаюць высказаную ў нас думку, што польскі ўрад маніцца прыступіць да распрадажы загранічным капіталістам нацыянальнае маемасьці. „Gaz. Warsz.“ друкуе заяву прэм'ера Грабскага, што прадажа некаторых прамыслова-гандлёвых дзяржаўных прадпрыемстваў

> у найбліжэйшых месяцах не прадбачыцца з увагі на тое, што цяпер не ўдалося-бы йшчэ дастаць найвышэйшую прадажную цану. Аднак, прыгатаўленьні да прадажы трэба будзе весьці далей....

„Robotnik“ гэтак піша аб „раўнавазе“ бюджэту Польшчы:

> „У далейшых месяцох выбіць бюджэт з раўнавагі можа, з аднаго боку, абніжэньне цаны абаротных грошаў, з другога—дарагоўля. Калі ад першага няма небясьпекі, бо новая валюта мае здаровую аснову, дык другую—дарагоўлю—урад павінен усімі сіламі перамагаць, пачынаючы ад абшарнікаў. Пагроза дарагоўлі выявіцца перад усім у патрэбе павялічываць плату службовую і за рэчы, а народ, уціснуты дарагоўляй, ня здолее далей вытрымаць ціск падаткаў“.

А тым часам—

> „тымчасам робяцца пастановы (ураду), якія могуць вельмі паважна адбіцца на кшталтаваньні цэн на ўнутраным рынку. Давелі адзначыць пастанову ў справе вывазу заграніцу значнае колькасьці скаціны. Вынікі гэтае пастановы ўжо відаць і цяпер. Цэны на мяса павялічываюцца. Уведзена такжа лішне высокае мыта на прывоз прадуктаў агульнага ўжытку (гарбату, каву, селядцы, рыж і г. д.).

## Самаволя і зьдзекі польскай адміністрацыі і паліцыі на беларускіх абшарах.

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

*паслоў Беларускага Клюбу да Пана Міністра Справядлівасьці і Пана Міністра Унутранык справаў у справе страляньня пастарунковага дзяржаўнай паліцыі да Кастуся Яцуты, жыхара в. Пагарэльцы, Снoўскай гм., Нясьвіскага павету.*

9 сакавіка 1924 г. на вясельлі ў в. Пагарэльцы адзін з учасьнікаў вясельля ударыў Кастуся Яцуту (в. Пагарэльцы, Сноўскай гм., Нясьвіскага пав.). Калі пакрыўджаны зьвярнуўся за дапамогай да пастарунковага Казлоўскага і той адмовіў, К. Яцута сказаў, што паедзе да Камэнданта з скаргай. Гэта не спадабалася паліцыянту і дзеля гэтага ён прышоў на двор К. Яцуты, дзе ўжо пакрыўджаны гаспадар запрагаў каня і заявіў: „ты да Камэнданта не паедзеш“. Аднак, калі Яцута трываў пры сваім пачатковым замеры, паліцыянт кінуўся на селяніна і пачаў яго біць, пасьля вынуў рэвольвар; на адлегласьці двух шагоў выстраліў два разы, цэлячыся ў яго, дзеля чаго К. Яцута быў ранены ў твар і вуха, якое пранізала куля. Сьведкамі гэтага праступленьня былі: Янка Тарабаш, Антон Яцута і Надзея Яцута з в. Пагарэльцы.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца паноў Міністраў:

1) Ці ведаюць яны аб вышэйшым?

2) Ці маюць замер спыніць самаволю паліцыі на беларускіх землях?

Ці вінаваты пастарунковы Казлоўскі будзе аддадзены судовым уладам?

Варшава, 2 красавіка 1924 г.

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

*паслоў Беларускага Клюбу да пана Міністра Справядлівасьці і пана Міністра Унутраных справаў у справе бандытызму, якім займаюцца Мікола Курыльчык, Мікола Шпакоўскі і Францішак Шумскі—канфідэнты інфармацыйнай агентуры ў Нясьвіжу.*

1) 17 лютага с. г. конфідэнты вывядоўчай паліцыі: М. Курыльчык, М. Шпакоўскі і Ф. Шумскі з в. Хвоева, Нясьвіскага пав. увайшлі да сялянскай хаты, дзе было вясельле і пачалі страляць у людзей. З гэтай прычыны быў ранены куляй у калена селянін Сьцяпан Бейня, які знаходзіцца цяпер у хірургічным шпіталі ў Нясьвіжу. Трэба зазначыць, што ранены знаходзіцца ў нязвычайна цяжкіх матар'яльных варунках, зьнішчаны вайною, жыве ў зямлянцы і здолеў яшчэ вывязьці з лесу дрэва на адбудову хаты.

2) У часе Калядаў конфідэнт М. Курыльчык затрымаў праяжджаўшага праз в. Хвоева Вінцука Зарожнага, жыхара тэй-жа вёскі, з крыкам: „Стой! Хто едзе? бандыты?“. Калі Зарожны, як заступнік солтыса запытаў: „Хто страляў?“ конфідэнты М. Шпакоўскі і Ф. Шумскі кінуліся на яго і зусім зьбілі.

3) У другой палове лютага с. г. вышэйуспомненыя конфідэнты вывядоўчай паліцыі напалі на праходзіўшага праз в. Хвоева Вінцука Віньнічка, жыхара тэй-жа вёскі, з крыкам „рукі ў гару“. Калі Віньнічак змушаны быў затрымацца, конфідэнт М. Курыльчык кінуўся на яго і пачаў яго біць рэвальвэрам па твары і галаве. У выніку гэтага нападу павыбівана Віньнічку зубы і разьбіта сківіца. Параду і адносную опэрацыю зрабіў хірургічны шпіталь у Нясьвіжу, у якім скалечаны знаходзіцца дагэтуль.

Сьведкамі гэтых чынаў былі: Андрэй Курыло, Васіль і Кастусь Якавец, Янка Зарожны і Янка Якавец, жыхары в. Хвоева.

Ня гледзячы на бандытызм, якім займаюцца агенты вывядоўчай паліцыі, іх не пацягнулі да судовай адказнасьці і яны дасюль бяскарна гуляюць па беларускіх землях, пагражаючы жыхарам в. Хвоева—сьведкам іхных праступных чынаў, што яны спаляць усю вёску, калі хто адважыцца сьведчыць проціў іх.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца п. п. Міністраў:

1) Ці ведаюць яны пра бандытызм, якім займаюцца агенты паліцыі?

2) Ці маюць замер звольніць беларускае насяленьне ад тэрору і бандытызму?

3) Ці маюць замер аддаць судовым уладам агентаў паліцыі, якія займаюцца бандытызмам?

Варшава, 2 красавіка 1924 г.

---

Значыць, дарагоўля будзе ўзрастаць усё больш.

А фабрыканты і абшарнікі не сунімаюцца ў абніжаньні заробкаў і павялічаньні гадзін працы іх работнікам. На гэтым грунце выбухнулі забастоўкі работнікаў у капальнях, ды пагражае забастоўка дворных парабкоў. Прынамся „Ghłopska Prawda“ ў № 2 піша;

> 1 красавіка г. г. Галоўны Урад Праф. Саюзу Сельскіх Работнікаў Рэчыпаспалітае Польскае, выслухаўшы справаздачу цэнтральнага сэкрэтарыяту ў справе агульнае ўмовы, пастанавіў упаўнамочыць цэнтральны сэкрэтарыят да абвешчаньня забастоўкі ў сельскай гаспадарцы, калі дамаганьні Саюзу Сельскіх Работнікаў ня будуць прыняты Саюзам Земляўласьнікаў.

### „Вызволене“ і работнікі.

Як ведама, натуральнымі саюзьнікамі працоўнага сялянства зьяўляюцца работнікі. Аб гэтым, аднак, відаць, забывае „Вызволене“, партыя польскіх сялян. Прынамся „Robotnik“ робіць вызваленскім паслам цяжкі закід, што яны ў Сойме йдуць насупраць інтарэсаў работнікаў.

> Колькі разоў ужо пры абгаварываньні законаў аб работніках „Вызволене“ разьвязывала справу на шкоду работнікаў. Гэтак было ў справе закона аб страхаваньні безработных. „Вызволене“ тлумачыла сваё становішча дбаласьцяй аб „інтарэсы скарбу“. Але „Вызволене“ галасавала проці нас нават у справе, якая ня мае нічога супольнага з інтарэсамі скарбу. Іменна, яно высказалася проці залічэньня прафэсіянальных саюзаў да ліку установаў, якім могуць даручацца некаторыя чыннасьці ў аказываньні помачы безработным. А вось новы факт. На парадак дня ў камісіі ахароны працы ўваходзе вельмі важная справа: пашырэньне на Горны Сьлёнск закона аб 8-гадзінным дню працы. Аб гэта цяпер змагаюцца, не шкадуючы ахвяр, работнікі ўсіх польскіх капальняў. Гэтага дамагаюцца прапазіцыі паслоў Станьчыка і памёршага ўжо Цехі (Н. П. Р.). Проціў іх выступае ў камісіі „хіена-пяст“. Хадэкі—за. *Рашаць маюць галасы „Вызволеня“*. І вось, прадстаўнік гэтае партыі прапануе ўсю справу адлажыць да часу, пакуль урад не прадставіць праекту, уагульняючага „усё сацыяльнае законадаўства“. Правыя паслы, разумеючы, ведама, што гэта раўназначна пахаваньню нязвычайна важнага дамаганьня работнікаў, галасавалі за прапазіцыю „Вызволеня“, і прапазіцыя была прынята.

Ведама, такая палітыка разыходжаньня сялян з работнікамі аслабляе і адных і другіх і дапамагае капіталістам замацовываць сваю ўладу над працоўнымі. Няўжо-ж „вызваленцы“ гэтага не разумеюць?

### Дзьве меркі.

„Kurjer Warszawski“, апраўдываючы французкія гвалты над Нямеччынай, прыпамінае, якія спусташэньні зрабілі немцы ў Францыі ў часе вайны. У канцы-ж кажа:

> І ці-ж не агорне нас пачуцьцё страшэнства, што гэта эўрапэйцы, а ня нэгры з Цэнтральнае Афрыкі, зрабілі гэтыя спусташэньні, што эўрапэйцы з адумам дзесяткі гадоў падгатаўлялі забойства другога народу і магутнасьць навукі выкарысталі дзеля таго, каб той народ (французаў) зьніштожыць....

Ну, не адны немцы рыхтаваліся да забойства другіх народаў: іначай іх самых не маглі-бы ўзяць за горла „міралюбцы“ французы! Але тут гожа прыпомніць, што ў часе паўстаньня ў Кітаі — дваццаць з лішкам гадоў таму назад, калі пад кіраўніцтвам нямецкіх генаралаў усе вялікія дзяржавы Эўропы слалі ў Пэкін карацельныя экспэдыцыі,—кайзэр Вільгэльм II сказаў сваім ваякам прамову, заклікаючы іх „забіваць кітайцаў так, каб чулі, што ўміраюць“, ды каб памяць аб гэтым крывавым „усьмірэньні“ жыла ў Кітаі да дзесятага пакаленьня. І тады ўся Эўропа, а перш за ўсё „міралюбная“ Францыя, біла брава крываваму імпэратару. Цяпер-жа на немцаў сыплюцца абвінавачаньні за тое, што яны ўжылі ў Эўропе спосабаў вайны, „зацьверджаных“ тэй-жа Эўропай для Кітаю....

---

Грамадзян падпішчыкау газэты „Голас Беларуса“, якія яшчэ не надаслалі падпіскі на красавік месяц, просімо пасьпяшыцца, каб ня было перарыву уатрымліваньні газэты.

**Адміністрацыя.**

---

